[illegible] Рыдвеўскі Лявон | Мікола Абрамчык

„NOUVELLES BIELORUSSIENNES“ — SUPPLEMENT A „SYNDICALISME“ DU 20 AVRIL 1946

# БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ

BIELARUSKIJA NAVINY

Адрыс Радакцыі і Адміністрацыі: 11 bis, Rue Roquépine. PARIS (8).

ГОД II. — ПАРЫЖ. САКАВІК - КРАСАВІК 1946. — № 3-4.

# Хрыстос Васкрос!

Янка КУПАЛА.

## *Хрыстос Васкрос!..*

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасьць,
Усё глядзіць, сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучальнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю свaей.
Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна сьвятая думка
З канца ў канец, як сьвет вялік.
Хрыстос васкрос! пяе сялянін
З сваей убогаю радней,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усей душой!
Хрыстос васкрос! пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты блiжнімі сваймі.
Хрыстос васкрос! пяюць і тыя
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі
Для нашай беднай стараны.
Хрыстос васкрос!.. К табе, о Божа,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ускрэсьне к лепшаму жыцьцю.

●

АНДРЭЙ ЗЯЗЮЛЯ.

## *Алелюя!*

Дзень вялікі настаў:
Хрыстос Бог уваскрос, —
Уставай, хто заспаў,
Каб на векі ня шчэз.
Радась гэтую нам
Абвяшчаючы, звон
Льлецца, копіцца там,
Дзе людзкі ёсьць прыгон.
Абуждаецца ўсё
Ад зімовага сну
І з вясельлем жыцьцё
Йзноў вітае вясну.
Дрозд і шпак на ўвесь лес
Трэль выводзяць сваю, —
Хрыстос Бог уваскрос,
Чэсьць і хвала Яму!
Усё расьце больш трава,
Зелянеецца бор,
Вось жывёлу з хлява
Выганяюць на двор.
Матылькоў цэлы рой
У ясным дзенным сьвятле
Закніжэў, моў з вадой
Шум і пена ў катле.
Позна ў вечар турчак
Ак пад поўнач турчыць;
Камары таўкуць мак,
Жук дубовы гудзіць.
Усё ў прыродзе жыве,
П'е вясельле жыцьця,
І казаў-бы заве
Нас, як маці дзіця.
Толькі ты, чалавек,
Аддаесься журбе,
Цяжкі чуючы зьдзек
Ад другіх на сабе.
Кінь журыцца, жыві
Ты надзеяй сьвятой,
Што ня век сьвякрыні
Папіхаць сіратой.
Хрыстос Бог уваскрос,
Уваскрэсьнеш і ты:
Усяму прыйдзе канец, —
Выйдзе сьвет зь цямнаты.



С. ПАЛУЯН.

... Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам адвечнага ад-жыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ! Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

— Хрыстос Уваскрос!

Радуйся, мой родны краю! Надзея, як жывучая вада, льлецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і для цябе. Хрыстос Уваскрос!

Над ім зьдзекаваліся. Яго білі па твары, сьцябалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы расьпялі і расьпятага не пераставалі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны зьвільжывалі воцтам і жоўцю. Ён памёр на крыжу паміж двох разбойнікаў. Але ўсёж-такі — Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго. І штогоду вялікай вясеньняй ночы тысячы царкоў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, льлецца радасны пераклік званоў, крыж падымаецца над мільёнамі схінёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

— Хрыстос Уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам? Скора-ж і ты ўваскрэсьнеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваей мовай; запрагалі цябе толькі на цяжкую, надсільную работу. Не давалі табе расьці разьвівацца. Воцтам чужой культуры зьвільжалі твае сьпечаныя смагай вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца зраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхнія. А хіба-ж яны ня любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахвяравалі не табе? А дзе яны? Іх няма з табой! З самага малку адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе. Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але ня умёр. Глыбака, глыбака ты захаваў сваю душу. Хрыстос быў з табой у тваіх муках, і Ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі Яго разам з табой! Але кожнага году па ўсей Беларускай зямлі разносіўся клік:

— Хрыстос Уваскрос!

... І ты ўваскрэсьнеш, мой Родны Краю! Скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем.

Адвечных ня можам пазбыціся сьлёз...

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар. З надзеяй ловіш зыкі званоў:

— Бом! Бом!.. Прачыхайся ад сну, Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца, жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну!

Наперад, па шчасьце!
Хай злое ўсё дрогне!
Вясна ўжо на сьвеце, —
Хрыстос Уваскрос!

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы і веры, я крычу ўва ўсю моц сваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном:

— З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

— Хрыстос Уваскрос!

*Усіх Паважаных Чытачоў Дарагіх Сьсстраў*
*і братоў вітаем зь Вялікім Сьвятам*
*Хрыстос Уваскрос!*

## *Вялікдзень*

Два сьвяты на сьвеце —
ад нівы да нівы
Хрыстос Уваскрос!
наступае вясна!
Глянь сьмела, глянь вольна,
шчасьліў, нешчасьлівы,
І далей к жыцьцю,
з паніжэньня і сна!

Гэй, гэй, на спатканьне
вялікіх двух сьвятаў
Сьпяшыце супольна,
хто ў путах ня згніў!
Хай льюцца-зыльюцца
ад хаты да хаты
У вадно ўсе грамады,
ўсе людзі ўсіх ніў!

Вялікдзень! Вялікдзень!
ад нівы да нівы
Забыў не адзін з нас
нядаўныя дні,
А ўспомні-прыпомні,
шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітаньні
на век адыйшлі, —

ўсе костачкі тыя
на гонях папарных, —
Жывых, што ў бяспуцьці
акуцьцем зьвіняць...
Прыпомні, дай слова
ня шчэзнуці марна,
Пачатую справу
шырыць, расшыраць!

Вялікдзень! Вялікдзень!
ад нівы да нівы
заводзе бацькоў сваіх
песеньку сын.
Зірні-ж, азірніся,
шчасьліў, нешчаслівы
І заўтра на поле
да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачам,
дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можам
пазбыціся сьлёз..
Наперад па шчасьце!
Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на сьвеце, —
Хрыстос Уваскрос!

Я. К.

# САКАВІК месяц трыумфау



**ПЕТРА**

**КРЭЧЭУСКІ,**

Прэзыдэнт

Беларускай Народнай

Рэспублікі

ад 13 сьнежня 1919 г.

да 8 сакавіка 1928 г.

**ВАСІЛЬ**

**ЗАХАРКА,**

Прэзыдэнт

Беларускай Народнай

Рэспублікі

ад 8 сакавіка 1928 г.

да 14 сакавіка 1943 г.



## Непахісныя змагары за волю Беларускага Народу. Сымбалі Беларускай дзяржаунай незалежнасьці.

# і смуткау

Месяц Сакавік у жыцьці Беларускага Народу зьяўляецца якімсь асаблівым месяцам. На яго прыпадаюць два найвялікшыя беларускія сьвяты радасьці і тры сумныя гадавіны.

25 Сакавіка 1525 году беларускі вучоны Доктар Францішак Скарына, па доўгім вандраваньні па сьвеце, зрабіўшы ўжо на чужыне вялікую славу беларускай культуры, выдрукаваўшы беларускую кніжку трэцяй у Эўропе (у 1483 годзе), павяртае на Бацькаўшчыну і 25 Сакавіка 1525 году закладае ў Вільні друкарню, а потым з сталіцы Беларусі перакідае свае адзьдзелы ў Полацак, Менск, Магілёў, Несьвіж, Любічы, Заслаўе, Слуцак, Пінск, Заблудава, Супрасьль, Еўя, Куцелянск, Порадню, Буйніцк і іншыя гарады.

У гісторыі культуры друкарская справа ўважаецца найвялікшым адкрыцьцём і дасягненьнем як для поступу самой культуры, так і цывілізацыі. Лёгка таму ўявіць, якое значэньне мела для нас, Беларусаў, дата 25 Сакавіка 1525 году, калі прыймем сабе пад увагу такі размах друкарства ў Беларусі ды й 'шчэ й тое, што беларуская друкарня выперадзіла польскую на 22 гады, а расейскую на 80 гадоў.

Бяз сумліву, што толькі дзякуючы друкарскай акцыі Доктара Ф. Скарыны беларуская культура ўзносіцца на такую вышыню і мова беларуская робіцца дыплёматычнай мовай на цэлым усходзе Эўропы.

Пётра Крэчэўскі ў свёй працы «Замежная Беларусь» (Прага, 1926 год.), робіць высноўкі, што беларуская мова захавалася нам у сваёй крыштальнай чысьціні і ня была зусім затаптаная нашымі злоснымі суседзямі пры іх найвялікшых высілках гэтага дапяць, толькі таму, што Скарына сваім друкарствам яе так моцна скансалідаваў ды так высака падняў яе прэстыж, што народ нават пазбаўлены інтэлігэнцыі патрапіў яе абараніць.

25 Сакавіка 1525 году зьяўляецца таму для нас датай вялікага сьвята трыумфу беларускай культуры.

***

З днём 25 Сакавіка супадае другое нашае Вялікае і радаснае Сьвята, — **прагалошаньне Беларусі суверэннай дэмакратычнай Рэспублікай.**

Дзень прагалошаньня Незалежнасьці Беларусі прыпаў якраз на 400 сотыя ўгодкі юбілею друкарства на Беларусі. Зьбежнасьць у часе двух вялікіх сьвят крые ў сябе якуюсь глыбокую сымболіку.

Так, як дата 25 Сакавіка 1525 году зьявілася кансалідуючым чыньнікам і трыумфам беларускай культуры, так 25 Сакавіка 1918 году ёсьць такім-жа кансалідуючым чыньнікам і трыумфам беларускай палітычнай думкі.

Кажуць яшчэ, што ў гісторыі наагул ня бывае якіхсь выпадковых зьявішчаў, а што ўсё мае свае падставы і заканамернасьць.

Забарона друку ў беларускай мове ў 1867 годзе пратрывала нябольш 30 год. У пачатку 20 стагодзьдзя ён вырываецца праз жалезныя ланцугі няволі і беларуская кніга друкуецца нелегальна, а ў 1905 годзе беларускі друк трыумфуе, атрымаўшы права легальнасьці.

За чверць веку затым беларускі друк, беларуская літэратура так размахнулася, што яна на'т выперадзіла нямала якія народы, маючыя палітычную незалежнасьць і сяньня спыніць беларускі друк ня ўстане ўжо ніякая сіла.

У 28-я ўгодкі прагалошаньня суверэннасьці Беларусі, ідэя нашай палітычнай незалежнасьці, ня гледзячы на тое, што ў 1918 годзе яна не зрэалізавалася поўнасьцю, эвалюцыянуе ня меньш шырокімі крокамі, як эвалюцыянавала наша друкарства.

Сымболіка зьбежнасьці даты нашых двух вялікіх сьвят трыумфу ня ёсьць містыка, а сацыяльна-палітычная заканамернасьць, якая мае сваю лёгіку, таму распачаўшыся прыродна працэс мусіць дайсьці да свайго лёгічнага канца — да дасягненьня свае канечнае мэты.

Дзень 25 Сакавіка, як дата здвоеных Вялікіх Сьвятаў, ёсьць таму Сьвятам нашага Аптымізму і Радасьці.

***

Але месяц Сакавік, апроч радасных сьвятаў, прыносіць нам і тры сумныя гадавіны. У гэтым месяцы на шляху барацьбы за рэалізацыю нашых ідэалаў адыйшлі заўчасна ад нас навекі тры вялікія змагары: Каліноўскі, Крэчэўскі, Захарка.

Каліноўскі — павешаны ў Вільні, на Лукішскім пляцы, 10 Сакавіка 1864 году; Крэчэўскі — памёр 8-га Сакавіка 1928 г.; Захарка — 14 Сакавіка 1943 году, абодва на чужыне, ад сухотаў.

Матэр'яльная наша беднасьць і няўпынна бурлівыя часы на нашых землях не дазволілі нам да гэтуль зрабіць трох гэтых вялікіх партрэтаў-манаграфіяў, якіх-бы можна было затытуляваць супольным загалоўкам — **Сымбалі Беларускай дзяржаўна-незалежніцкай думкі, нязломныя Барацьбіты за Волю Беларускага Народу.**

Столькі ў іх супольных рысаў характару, столькі супольнасьці ў маральна - інтэлектуальных якасьцях; сіле агню беларускага патрыётызму, дзяржаўнага розуму, палітычнай далёказоркасьці.

Хіба толькі з тэй розьніцай, што, паколькі Крэчэўскі і Захарка, дзякуючы сваёй сталасьці веку, прыдбалі сабе неабходныя якасьці палітычных правадыроў, то Каліноўскі меў іх, дзякуючы свайму прыроднаму палітычнаму гэнію.

У 22-гім годзе свайго веку Каліноўскага мы ўжо бачым, як бліскучага адваката, а ў 25 год правадыром паўстаньня «Дыктатара» Літвы-Беларусі.

Яшчэ адна супольнасьць у характары нашых трох Вялікіх Змагароў, гэта супольнасьць сацыяльна-палітычнай канцэпцыі, — у глыбокім дэмакратызьме, што іх яшчэ больш узносіць на вышыню.

Аднальковыя мелі цяжкасьці і перашкоды, ў якіх даводзілася праводзіць гэтым тром вялікім капітанам беларускі параплаў пры так бурлівых, скамплікаваных палітычных абставінах.

Эпоха Каліноўскага была ўжо так сама багата рэнэгацтвам у радох беларускай інтэлігэнцыі, але Яго гэта не зьлякала. Апіраючыся на здаровы сялянскі і дробна інтэлігэнцкі элемэнт, ён цьверда і рашуча даваў адпор усякім наскокам, як звонку, так і знутра. І прайграўшы на'т бой ён з моцнай верай у канчальную перамогу Беларускага Народу ідзе горда непахісна на шыбельніцу Мураўёва, даючы ў апошнюю хвіліну запавет Беларускаму Народу:

Спаткае чорны час — ня гніся,
У буры моцны будзь — ня трусь!
Мяне успомніш — памаліся,
А я з-за сьвету адклікнусь.

(Машара).

Каліноўскі памёр, крыштальна захаваўшы і пакінуўшы нам чысьціню ідэі запраўднага дэмакратызму і незалежнасьці Беларусі.

А хіба-ж мы ня знаем, у якіх крутых і цяжкіх абставінах змагаліся за долю Беларускага Народу, за чысьціню ягоных ідэалаў, Крэчэўскі — Захарка.

Ад першых дзён бурлівых падзей у нашай Бацькаўшчыне да апошніх хвілін свайго жыцьця, яны нятолькі што не аслаблі ў сваёй сіле веры, нятолькі не паддаліся апартунізму, а на'т на пядзю не збачылі ў бок, застаючыся вернымі, нязломнымі і непахіснымі правадырамі Беларускага Народу, на што згоду і паўнамоцтвы ад яго атрымалі.

Кожны зь іх высака і горда трымаў Беларускі Сьцяг, фанатычна абараняў чысьціню Акту 25 Сакавіка аж да апошняй хвіліны свайго жыцьця.

Апошні зь іх — Захарка, апынуўшыся мо' у найцяжэйшых абставінах, калі нямецкая навала акупаваўшы Беларусь намагалася выкарыстаць аўтарытэт Прэзыдэнта Б. Н. Р. і рознымі подступамі старалася зламаць яго дух. Захарка на'т цяжка ўжо хворы, не пакідаючы ложка ў санаторыі, даўшы рашучы адпор усялякім нямецкім наскокам, змагаўся падпольна з такой сілай, што многія зь Беларусаў, якія былі зь ім у кантакце, толькі пісемна, ніколі й не падазравалі, што маюць справу з чалавекам, за плячыма якога так блізка стаяла сьмерць.

Каліноўскі — Крэчэўскі — Захарка — тры вялікія палітычныя правадыры, пакінулі Беларускаму Народу сільнае аружжа: крыштальна чысты Беларускі Штандар, ідэальную традыцыю высокай палітычнай маралі, чэснасьці, далёказоркасьці, тэстамэнт, напісаны прыкладам безпадобнай адвагі - ахвярнасьці.

**М. Л.**

